


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* **Францішак БАГУШЭВІЧ**

# Наша слова

№ 33(43) • 2—8 КАСТРЫЧНІКА 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



*Беларуская мова ў менскіх школах* Стар. 2.

*Зміцер Санько: «Як мы абкрадалі самі сябе...»* Стар. 2.


*Віктар ШНІП*

## 19 ВЕРАСНЯ 1991

Над Беларуссю, што ідзе з нядолі,
Узвіўся бел-чырвона-белы сцяг.
Да Адраджэння, Радасці і Волі
Пазначаны магіламі наш шлях.

І слёзамі асветлена былое,
І новы Дзень ужо не за гарой.
Мы ведаем, што наша, што чужое,
Бо наша ўсё акроплена крывёй.

Збудзіўся люд, што быў душою сонны,
І над сабой паходні запаліў.
І продкаў слаўныя імёны
Належаць нам, як мы — сваёй зямлі.

І хай чужак ад злосці вар'яцее,
Але яму ўжо болей не стрымаць
Пагоні, што ляціць на ліхадзеяў,
Што Беларусь хацелі ў нас забраць.

І хмары рабства разрывае вецер
І выпускае вольнасці зару.
І чуцен кліч па ўсім бялюткім свеце:
Жыве Беларусь!

Жыве Беларусь!!



## Краязнаўства адраджаюць... вайскоўцы

У кансерватыўнай увогуле газеце Беларускай ваеннай акругі «Во славу Родины» амаль што паўтара года друкуюцца матэрыялы пад рубрыкай «Белая Русь: архівы часу». Звычайна гэтыя публікацыі, пазначаныя «фірменнай» клішыраванай застаўкай, з'яўляюцца ў суботніх нумарах. Яно і зразумела: у гэты дзень людзі маюць больш вольнага часу і ўсё чытаюць уважлівей, удумлівей.

Чытачы ўжо паспелі «адкрыць» для сябе Ігната Дамейку, Аляксандра Ельскага, даведаліся пра многія гістарычныя акалічнасці, звязаныя з Бабруйскай крэпасцю і Бярэзінай, «пабывалі» ў Мар'інай Горцы і Валожыне...

Сярод аўтараў рубрыкі «Белая Русь: архівы часу» — Янка Саламевіч і Сяргей Чыгрын, Аляксей Ненадавец і Леанід Аной... Але і самі вайскоўцы наведваюць архівы, збіраюць паданні, імкнуцца разабрацца ў тапанімічных загадках. Вядзе гістарычную рубрыку ваенны журналіст падпалкоўнік Святаслаў Асіноўскі. Многія матэрыялы падрыхтаваны маёрам М. Маліноўскім. Дарэчы, ён — праўдзейны член Геаграфічнага таварыства СССР. Адметна, што матэрыялы рубрыкі з'яўляюцца сапраўднай спробай зазірнуць у мінулае: ніводная публікацыя не асвятляе падзей, якія адбыліся пасля Кастрычніка 1917 года.

Увага да гістарычнай мінуўшчыны з боку вайскоўцаў — таксама рыса сённяшняга часу. Дык ці ж не стануць наступным крокам захады вайскоўцаў да вывучэння беларускай мовы?

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКУ: Святаслаў Асіноўскі.
Фота С. АНАТОЛЬЕВА.

**УЧОРА АДНАВІЛА СВАЮ РАБОТУ НАДЗВЫЧАЙНАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА. У ЯЕ ПАРАДКУ ДНЯ ТАКІЯ ПЫТАННІ: АБ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, АБ ГЕНЕРАЛЬНЫМ ПРАКУРОРЫ РЭСПУБЛІКІ, АБ ПРЫЗНАННІ ПРАВА ПРЫВАТНАЙ УЛАСНАСЦІ НА ЗЯМЛЮ І ІНШЫЯ, ЯКІЯ НЕ БЫЛІ РАЗГЛЕДЖАНЫ НА ПЕРШЫМ ЭТАПЕ РАБОТЫ СЕСІІ. УСЯГО ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ АБМЯРКУЕ 5 ПЫТАННЯЎ.**

## Поступ тыдня

**ПАРЛАМЕНТ РЭСПУБЛІКІ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ СТВАРЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ АРМІЮ, УЛАСНЫЯ ПАГРАНІЧНЫЯ І ТАМОЖНЫЯ СЛУЖБЫ, ПЕРАПАДПАРАДКАВАЦЬ САВЕТУ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ СІСТЭМЫ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АБАРОНЫ, ПАГРАНІЧНЫХ І ЧЫГУНАЧНЫХ ВОЙСКАЎ, ВАЕНКАМАТАЎ.** Вырашана таксама праводзіць ваенныя зборы і воінскую службу на беларускай зямлі і толькі па жаданню прызыўнікоў — за яе межамі. **НАРЭШЦЕ, УПЕРШЫНЮ ЗА МНОГІЯ ГАДЫ ЮНАКАМ ДАЗВОЛЕНА ВЫБІРАЦЬ АЛЬТЭРНАТЫЎНУЮ СЛУЖБУ. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЕЮ СТАНЕ ПРАЦА Ў БУДАЎНІЧЫХ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯХ.**

*Адначасова аб'яўлена, што выдаткі на ўласную армію складуць не менш як 7 мільярдаў рублёў у год. Пытанне — дзе іх узяць. Бо сёння вялікая частка грошай паступае на гэтыя мэты з саюзнага фонду. ПАД ПЫТАННЕМ ЗАСТАЕЦЦА ТАКСАМА, ЯК ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ, ШТО ЗНАХОДЗІЦЦА НА НАШАЙ ЗЯМЛІ. ХОЦЬ ЁСЦЬ І СЛУШНЫЯ ПРАПАНОВЫ: АБ'ЯВІЦЬ БЕЛАРУСЬ, ПАСЫПАНУЮ ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ПОПЕЛАМ, БЕЗ'ЯДЗЕРНАЙ ЗОНАЙ.*

ФРАКЦЫЯ «Дэмакратычныя рэформы» Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь звярнулася да суайчыннікаў з заклікам аб'яднацца ў новую палітычную партыю парламенцкага тыпу, партыю дэмакратычных рэформ.

*САЮЗ ЖУРНАЛІСТАЎ Беларусі заклікаў Старшыню рэспубліканскага парламента С. С. Шушкевіча прыняць меры для выжывання прэсы ва ўмовах пераходу да рынку. Сярод іх прапанавана дзіцячым, беларускамоўным і раённым выданням, якія ў многім садзейнічаюць захаванню нацыянальнай мовы, выдзеліць дзяржаўную датацыю.*

**УРАД РЭСПУБЛІКІ АДПУСЦІЎ 300 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ НА РАБОТЫ ПА ЗАХАВАННЮ БЕЛАРУСКАГА ПААЗЕР'Я, ЯКОЕ ЎКЛЮЧАЕ Ў СЯБЕ ТЭРЫТОРЫЮ ВІЦЕБШЧЫНЫ І ПАЎНОЧНУЮ ЧАСТКУ МІНШЧЫНЫ.** Апошнім часам лёс гэтага ўнікальнага прыроднага кутка выклікаў заклапочанасць у сувязі з інтэнсіўнай і бессістэмнай меліярацыяй.

*Госці рэдакцыі*

## Уладзімір ЛУЧУК: НЕ БЫЦЬ У ЦЯНІ СТАРЭЙШАГА БРАТА

***Савецкі Саюз разваліўся на незалежныя дзяржавы. Абарваліся шматгадовыя сувязі паміж прадпрыемствамі і ўстановамі, але сяброўскія адносіны паміж людзьмі застаюцца.***

НЯДАЎНА ў рэдакцыю «Нашага слова» завітаў украінскі паэт і перакладчык Уладзімір Лучук. Наш карэспандэнт задаў яму некалькі пытанняў.

**— З чаго пачалося ваша сяброўства з беларусамі і беларускай літаратурай?**

— У час вучобы ў Львоўскім універсітэце я ўпершыню пазнаёміўся з беларусамі, якія прыехалі да нас вучыцца. Мяне зачаравала беларуская мова. І я, захапіўшыся беларускай паэзіяй, вырашыў паспрабаваць перакласці асобныя творы на ўкраінскую мову. Першымі ў маім перакладзе прыйшлі да ўкраінскага чытача вершы Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна.

**— А якія творы на беларускай мове вы прачыталі ўпершыню?**

— Гэта была кніжка Янкі Лучыны «Лірыка», 1903 года выдання. Яе і сёння я бачу перад сваімі вачыма — яна была маім першым падручнікам беларускай мовы.

**— Хто з беларусаў вучыўся з вамі ва універсітэце?**

— Усіх называць не буду, бо атрымаецца даволі доўгі пералік. Назаву толькі вядомых вам пісьменнікаў: Валянціну Коўтун і Сяргея Панізніка. Яны былі вельмі актыўнымі ў культурным жыцці нашага універсітэта. Дарэчы, у Львове ў той час, а гэта былі шасцідзесятыя гады, існавала беларускае таварыства, якое праводзіла ў горадзе беларускія святы. Ды і на сённяшні дзень у Львове жыве больш за шэсць тысяч беларусаў — гэта афіцыйная лічба, але, на маю думку, беларусаў у горадзе каля трыццаці тысяч.

**— Украіна аб'явіла незалежнасць. Вашы адносіны да гэтай падзеі?**

— Незалежнасць Украіны — шматгадовая мара большасці ўкраінскага народа. Я не палітык, але я веру, што іншага шляху да росквіту нашай рэспублікі, як праз незалежнасць, няма. І сёння савецкая імперыя ўжо нікога не ўтрымае танкамі ў Саюзе, няхай і ў новым. Саюзны дагавор, як бы яго ні называлі, на маю думку, як для Украіны, так і для Беларусі — пятля на шыі.

**— Як вы глядзіце на ўтварэнне Чарнаморска-Балтыйскага саюза, у які б увайшлі Украіна, Беларусь і рэспублікі Прыбалтыкі?**

— Я супраць такога саюза. Кожная рэспубліка павінна быць незалежнай у тых межах, якія склаліся на сённяшні дзень, мець сваё войска, свае грошы і г. д.

**— Як справы з украінскай мовай на Украіне?**

— Становішча не вельмі добрае. У абласных цэнтрах Усходняй Украіны няма нацыянальных школ. А ў заходніх раёнах, там, дзе да ўлады прыйшлі дэмакраты, такія школы ёсць, але для іх не хапае патрэбных падручнікаў.

**— Як вы думаеце: ці разваліцца Саюз пісьменнікаў Украіны?**

— Усё можа быць. Але пакуль што ў красавіку гэтага года большасцю галасоў членаў СП Украіны наша арганізацыя выйшла з Саюза пісьменнікаў СССР.

**— Вашы планы на будучае?**

— І надалей мацаваць дружбу паміж украінскімі і беларускімі пісьменнікамі. На маім стале чакаюць перакладу кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Караткевіча, а таксама творы маладзейшых.

Нядаўна ўдзельнічаў у адным са святкаванняў юбілею Максіма Багдановіча. Я яшчэ раз упэўніўся, што беларускі народ ужо не такі, якім быў, прыкладна, год назад, і яго сёння нельга падмануць і прымусіць стаць на калені перад чужынцам. Народы з такой багатай нацыянальнай культурай, як украінскі і беларускі, маюць права на незалежнасць, а не на абяцанні на светлае заўтра. І я веру, што нам не быць у цяні старэйшага брата.

Распытваў
Віктар ШНІП.

*Рэха*

# Ці варта плаціць за беларускасць?

Увесь час свайго існавання ансамбль Белдзяржфілармоніі «Свята» працуе на замежжа. Яно і зразумела: каларытны фальклорны калектыў — сама Беларусь!

**Ды вось газета «Свободные новости» ўзняла надзённае пытанне: як стымулюецца матэрыяльна наш вядомы творчы калектыў, які зарабляе валюту за мяжой. Так вядома, што за сваю працу беларускія артысты атрымліваюць мізэрную плату нават у параўнанні з маскоўскімі калектывамі, а з замежнымі спадарамі іх і параўноўваць няма як. Факт з шэрагу многіх: у Германіі наш артыст атрымлівае за канцэрт 140 марак, тады як адзін выхад на сцэну мясцовага дырыжора сімфанічнага аркестра' каштуе пяць тысяч марак. Каментарыі, як кажуць, лішнія.**

**І ў мяне, дзівака, узнікаюць пытанні. Ансамбль «Свята» не толькі выключна валютны калектыў, але і выключна нацыянальны па прафесіі. То чаму ж дапускаецца такі здзек з нашых артыстаў? Чаму прыніжаецца іх чалавечая і нацыянальная годнасць? Хто так «танна» ацаніў іх працу? Міністэрства культуры і Белдзяржфілармонія? Ці наш «найвышэйшы эшалон» улады? Або замежныя «пакупнікі» нашых талентаў? Хто на гэта адкажа? І ўвогуле, куды ідуць валютныя сродкі, якія зарабляе для дзяржавы ансамбль «Свята»?**

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Вучымся*

# ПЕРАКОНВАЕ САМО ЖЫЦЦЁ

***На 1 верасня 1991 года ў Менску 34 сярэднія школы маюць статус беларускіх, у 72-х школах з рускай мовай навучання адкрыліся беларускамоўныя першыя класы, ёсць 5 беларускіх і 3 беларуска-рускія гімназіі, 240 дзіцячых садкоў, дзе адкрыты беларускамоўныя групы.***

НАШ КАРЭСПАНДЭНТ гутарыць з начальнікам аддзела агульнай сярэдняй адукацыі і дашкольнага выхавання Упраўлення народнай адукацыі Менскага выканаўчага камітэта гарадскога Савета народных дэпутатаў Алай Васільеўнай Фраловай.

**— Ала Васільеўна, якія цяжкасці ў вас узнікаюць пры правядзенні беларусізацыі школ? Як да гэтага ставяцца бацькі?**

— Такіх праблем, якія ёсць у іншых гарадах, у нас пакуль што няма, а менавіта, калі бацькі ставяць умову, што школа павінна быць толькі рускай і без ніводнага беларускага класа. Мы не бачылі наяўнага абурэння. Тым не менш было ціхае супраціўленне, калі бацькі прыводзілі сваё дзіця ў школу, якая па рашэнню гарвыканкама мела статус беларускай, але пісалі ў заяве, што іх дзіця будзе вучыцца толькі на рускай мове. Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, мы здзяйсняем праграму па выкананню «Закона аб мовах», зацверджаную Менгарвыканкамам.

**— На сённяшні дзень у Менску ўжо ёсць беларускія школы, ліцэі, створаны беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках, адкрыты таксама беларускія класы для першакласнікаў у рускіх школах. А з чаго ўсё пачыналася?**

— У 1989 годзе па рашэнню Менгарвыканкама 8 школ атрымалі статус беларускіх. Сярэднія школы №№ 40, 108, 110, 136, 190, 192 адразу ж пачалі навучанне першакласнікаў на роднай мове. Усе першыя класы ў гэтых школах сталі беларускамоўнымі. Але далёка не ўсюды справы пайшлі так добра. У сярэдняй школе № 23 не здолелі зрабіць усю паралель першых класаў беларускай і нават у гэтым годзе змаглі набраць толькі адзін беларускі клас.

У 1990 годзе дадаткова яшчэ 13 школ атрымалі статус беларускіх. Вынікі тут таксама неадназначныя. Прыкладам могуць служыць сярэднія школы № 75 і № 170, якія адкрылі сярод першых класаў толькі па адным беларускім. У 1991 годзе мы паставілі дырэктараў школ, кіраўнікоў раённых аддзелаў народнай адукацыі перад фактам, што калі школа мае статус беларускай, то ўсе першыя класы павінны быць толькі беларускімі. Дадаткова яшчэ 13 школ сталі беларускімі. Выправілася становішча ў сярэдняй школе № 170. Тут быў адзін першы беларускі клас, а ў гэтым навучальным годзе адкрыта дзевяць з агульнай колькасцю вучняў 240.

**— У чым вы бачыце прычыну такіх змен у гэтай школе?**

— Змаглі пераканаць бацькоў. Прыклад таго, як працаваў беларускі клас у мінулым навучальным годзе, зрабіў на іх станоўчы ўплыў. Бацькам спадабаліся добрыя вынікі ў вучобе, спрыяльныя ўмовы для працы, вопытны настаўнік. І яшчэ дапамагло тое, што ў гэтым годзе вышэйшыя навучальныя ўстановы ўвялі ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры, у педвучылішчы таксама створаны беларускія групы, і вялікая колькасць прадметаў выкладаецца на беларускай мове. А бацькі заўсёды думаюць пра будучыню сваіх дзяцей.

**— Звычайна статус беларускіх атрымліваюць самыя прэстыжныя школы. Ці гэта так?**

— Так. Па-першае, школы належаць да самых лепшых у Менску. Па-другое, беларускія школы маюць музычна-харавы, тэатральны, мастацкі ўхіл, тут вядзецца паглыбленае вывучэнне якога-небудзь прадмета. Калі прааналізаваць нашу праграму, то колькасць беларускіх школ будзе суаднесена з колькасцю беларускага насельніцтва. Калі цяпер у Менску 76 працэнтаў беларусаў, то на перспектыву 76—80 працэнтаў школ будуць беларускімі. Ёсць шмат рускіх школ, дзе працуюць адзінкавыя беларускія класы. Такія школы ў будучым павінны атрымаць статус беларускіх. Іх у нас цяпер больш за семдзесят.

**— А якая ў нас склалася сітуацыя з беларускамоўнымі групамі ў дзіцячых садках?**

— Адкрыта 240 беларускамоўных груп у дзіцячых садках. Мы лічым, што побач з беларускімі школамі павінны быць беларускія садкі, каб дзеці адразу з беларускамоўнай групы ў садку трапілі ў беларускую школу. Павінна існаваць пераемнасць.

**— У Менску працуюць таксама навучальныя ўстановы новага тыпу. Я маю на ўвазе ліцэі, каледжы...**

— У мінулым навучальным годзе адкрыты 4 гімназіі. Але, на жаль, толькі адна з іх беларуская. Цяпер мы імкнёмся выправіць становішча. У рускіх гімназіях створаны таксама першыя беларускія класы. Сёлета адкрыта яшчэ некалькі беларускіх гімназій на базе сярэдніх школ №№ 54, 111, 199. Сёння ў Менску ёсць 2 рускія гімназіі, 5 беларускіх і 3 беларуска-рускія. Адкрыліся 2 ліцэі на базе сярэдніх школ № 26 (мастацка-беларускі ліцэй) і № 158 (планецца як нацыянальны беларускі ліцэй). Ёсць у нас адзін каледж, але пакуль што рускамоўны. Ён заснаваны на дагаворных пачатках з Менскім педагагічным Інстытутам замежных моў. Каледж лінгвістычна-гуманітарны. Дзеці вывучаюць некалькі замежных моў. Але з выкладаннем замежных моў ёсць цяжкасці, паколькі не хапае слоўнікаў, метадычнай літаратуры.

**— А як вядзецца перападрыхтоўка кадраў? Відавочна, што далёка не кожны настаўнік можа выкладаць свой прадмет на беларускай мове.**

— Тут ёсць таксама свае праблемы. У асноўным вядзе курсавую падрыхтоўку Інстытут удасканалення настаўнікаў. Цяпер на ўсіх курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў уведзены абавязковы спецкурс па вывучэнні беларускай мовы, каб настаўнікі маглі выкладаць свой прадмет на роднай мове.

**— Але школа — гэта не толькі ўрокі, гэта яшчэ і пазакласная выхаваўчая работа. Якія змены адбыліся тут?**

— Пасля апошніх падзей у краіне вялікія дэмакратычныя змены закранулі і школу. Я маю на ўвазе дэпартызацыю і дэпалітызацыю народнай адукацыі. У пазакласнай выхаваўчай рабоце значнае месца павінна заняць вывучэнне нацыянальных традыцый, культуры, быту. У школах створаны ўжо цудоўныя фальклорныя калектывы. У некалькіх раёнах Менска прайшлі творчыя справаздачы школ. Тут можна было ўбачыць «Калядкі» і «Вячоркі». Зрухі ў выхаваўчай рабоце ўжо ёсць.

Адна з асноўных задач Упраўлення народнай адукацыі — забеспячэнне ўмоў для якаснага выканання Закона аб мовах у Беларусі. Калі казаць пра тэрміны, то, можа, недзе мы спазняемся: не ўсё ад нас залежыць, нешта мы не прадбачылі, не дарабілі. Але мы выпраўляем зробленыя раней памылкі.

**— Шчыра дзякую вам, жадаю поспехаў у працы на карысць адраджэння роднай мовы.**

Гутарыла Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## «Белорусский язык для говорящих по-русски»

*Падручнікі*

У кнігарні з'явілася трэцяе выданне падручніка для тых, хто хоча самастойна вывучаць беларускую мову альбо павысіць ступень валодання ёю. «Павысіць ступень» неабходна многім з нас, таму кніга на паліцах не заляжыцца.

Выданне гэтае аўтарамі перапрацавана, адчуваецца, што яны ўлічвалі і палітычную перабудову грамадства. Ва ўсякім разе адзін з іх, Арнольд Міхневіч, паспеў у прадмове працытаваць, што сказаў М. Гарбачоў пра сацыялізм з «чалавечым тварам», але, даючы ў канцы пералік слоўнікаў, яшчэ «не заўважыў» існаванне «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» Вацлава Ластоўскага, які тым часам паспела сваім коштам перавыдаць Таварыства беларускае мовы.

Тым не менш выданне вельмі актуальнае і, магчыма, будзе карыстацца асаблівай папулярнасцю ў нашага чыноўніцтва, якое яшчэ бачыць сны пра імперскі «сацыялістычны выбар і камуністычныя перспектывы», але ўжо ўспамінае, што быў-такі прыняты Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы.

Л. М.

# АБКРАДАЛІ САМІ СЯБЕ

***(З нагоды выхаду ў свет слоўніка В. Ластоўскага)***

***Перавыданне факсімільным спосабам, а гэта значыць з захаваннем усіх асаблівасцей першакрыніцы, нядаўна яшчэ «рэпрэсіраванага» «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» В. Ластоўскага выклікала задавальненне культурнай грамадскасці рэспублікі. Разам з тым у некаторых нашых чытачоў узнік і шэраг пытанняў адносна зместу слоўніка, які для многіх беларусаў стаў легендарным, і спосабу ягонага выпуску.***

У СУВЯЗІ з гэтым карэспандэнт «Нашага слова» сустрэўся і пагутарыў са старшынёй выдавецкай камісіі ТБМ Зміцерам Санько.

**— Спадар Зміцер, вы як адказны за выпуск гэтага слоўніка, пэўна ж ведаеце яго больш, чым хто. У чым, на вашу думку, яго асаблівасць, адметнасць? І наогул, ці можна ім карыстацца як нарматыўным, як некаторыя меркавалі?**

— Разумею радасць прыхільнікаў роднага слова, якія набылі «падручны» «Расійска-крыўскі слоўнік» Вацлава Ластоўскага. Ён вельмі багаты. У ім шмат беларускіх адпаведнікаў тых расійскіх слоў, якія ў сучасных нашых слоўніках перакладаюцца калькамі або ўвогуле не перакладаюцца. Шмат для каго будуць адкрыццём словы **чуйнаваць** (бодрствовать), **павохны** (благоухающий), **поберць** (жребий), **святар** (священник), **пошуг** (вспышка), **узрок** (предлог), **важнік** (весовщик) ды іншыя.

Міжволі думаеш, як мы абакралі самі сябе, гэтулькі дзесяцігоддзяў адпрэчваючы плён самаадданай працы В. Ластоўскага, дый не толькі яго, але і С. Некрашэвіча, М. Байкова, М. Гарэцкага, Я. Станкевіча — ахвяраў бесчалавечнай сістэмы.

Але каб адразу знясць усе непаразуменні, якія могуць узнікнуць, варта адзначыць: слоўнік В. Ластоўскага не нарматыўны. Аўтар і не ставіў перад сабою такой задачы. Ён найперш імкнуўся паказаць самабытнасць, адметнасць беларускай мовы, імкнуўся ачысціць яе ад неапраўданых запазычанняў з суседніх моваў, што, праўда, не заўсёды яму ўдавалася, і дасведчаны чытач гэта заўважыць. Сам аўтар добра разумеў складанасць такой працы: «Мова наша занячышчалася сотнямі гадоў, дык і праца па ачыстцы яе не можа быць зроблена высілкамі адзіночнага чалавека: над гэтым павінны доўгія дзесяцігоддзі працаваць вучоныя аб'яднанні і ўстановы».

Дзеля справядлівасці зазначу, што гэта не першае перавыданне слоўніка В. Ластоўскага. Як сведчыць бібліёграф незалежнага беларускага друку Юрась Лаўрык, у 1980 годзе ў Наваполацку было ажыццёўлена ратапрынтнае выданне накладам 100 паасобнікаў. Не выключана, што былі і іншыя спробы. Слоўнік заўсёды вабіў маладых адраджэнцаў сваім багаццем і адметнасцю.

— Наш чытач Алег Юшкевіч наракае на неахайнае сшыванне кнігі, нізкую якасць фальцавання. Ён піша, што гэтак выдаць працу В. Ластоўскага маглі толькі людзі, абыякавыя да Адраджэння Беларусі.

— Пагаджаюся са спадаром А. Юшкевічам: вельмі прыкра, калі якасць паліграфічнага выканання такой кнігі невысокая. У сувязі з гэтым лічу патрэбным паведаміць чытачам «Нашага слова». Калі вам трапіцца дэфектны паасобнік, неадкладна звяртайцеся ў друкарню імя Ф. Скарыны, дзе ён выраблены. Вам яго абавязаны замяніць. Адрас друкарні: 220067, г. Менск, вул. Жодзінская, 18. Тэл. 63-63-29.

— Ну, а якія планы выдавецкай камісіі ТБМ надалей? Што мяркуеце выпускаць?

— Рыхтуюцца да выдання чарговыя выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» па матэматыцы і біялогіі. Плануем таксама выпусціць «Геаграфію Беларусі» Аркадзя Смоліча, «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак фразеалагічны і прыказкі ды прывітанні, зычэнні» Янкі Станкевіча. Трэба перавыдаць «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага, кнігу «Родная мова ў святынях» Адама Станкевіча.

Але ажыццяўленне нашых планаў будзе залежаць ад наяўнасці паперы і грашовых сродкаў, якіх сёння ў Таварыстве, на жаль, небагата.

# ТАЛЕНТЫ НАРОДНЫЯ



**Сустрэча з маладым браслаўскім мастаком Валерыем Зянкевічам навяла на роздум пра сітуацыю, якая склалася за апошнія гады ў асяроддзі творчай моладзі. З трывогай гаварыў Валерый, што вырашаючы матэрыяльныя праблемы, здольныя мастакі ідуць у кааператывы, малыя прадпрыемствы і там дзеля патрэб непатрабавальнага густу абывацеляў пачынаюць «тварыць» няякасныя вырабы. На паток ставяцца аднатыповыя разныя зубры, арлы, барэльефы з аленевымі і ласінымі рагамі. І на гэтым часта заканчваецца мастак.**

**Валерый Зянкевіч таксама ледзь не паддаўся гэтай плыні. Ды не пра тое ён марыў, калі пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута вярнуўся ў Браслаў. Марыў ажыццявіць планы, народжаныя ў Віцебскім творчым аб'яднанні "Узгор'е" — адраджаць і развіваць традыцыі беларускіх народных рамёстваў і асабліва разьбы па дрэве: хацелася Валерыю стварыць своеасаблівы браслаўскі стыль разьбы.**

**Цяпер працуе над гэтым сам, шукае аднадумцаў і разумее, што без пераемнасці не зможа рэалізаваць гэту ідэю. А таму пайшоў працаваць у Браслаўскі навучальна-вытворчы камбінат, дзе вядзе аддзяленне разьбы па дрэве. Хто з яго вучняў стане прыхільнікам ідэі настаўніка — пакажа час.**

**Маладосці ўласцівы аптымізм. І будзем спадзявацца, што мара Валерыя Зянкевіча набудзе крылы. Асабліва, калі сустрэне ён разуменне і практычную падтрымку раённых аддзелаў народнай адукацыі і культуры.**

Фота аўтара.

Е. КАЗЮЛЯ. (БЕЛТА).



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Але!

## Калі адгуляем акадэмічную «свадьбу»?..

Чарговы раз наведваючы кнігарню, узрадваўся, заўважыўшы навінку, прысвечаную музычна-этнаграфічнаму фальклору Беларусі. Адно засмуціла: праца Тамары Барысаўны Варфаламеевай «Северо-белорусская свадьба: обряд, песенно-мелодические типы», выдадзеная акадэмічным выдавецтвам «Навука і тэхніка», прыйшла да чытача на... расійскай мове.

Вывучаючы беларускі фальклор, да якіх толькі крыніц мы не звяртаемся, у якіх толькі архівах не працуем! А зараз чарговай манаграфіяй дапаўняем рускамоўныя крыніцы пра Беларусь... Здаецца, і нічога дрэннага ў гэтым не было б, калі б у нас кніжныя паліцы трашчалі ад такой літаратуры на роднай мове.

Вось і газета «Навіны Беларускай акадэміі» (што да зместу, то ад нумара да нумара яна робіцца ўсё больш цікавай) друкуецца на дзвюх мовах. Чаму? Хіба той факт, што ў «Навінах...» падаюцца матэрыялы па фізічных, матэматычных і іншых тэмах, можа служыць апраўданнем двухмоў'я газеты? Каму ж, як не навукоўцам, і дбаць пра тэрміналогію, новыя беларускія найменні ўсялякіх спецыяльных назваў? Праўда, на пачатку сёлетняга года «Навіны...» ўсчалі дыскусію пра двухмоў'е газеты. Але, на вялікі жаль, нічога і пасля гэтага не змянілася. Мо таму і «пажартавала» акадэмічная газета, змясціўшы ў адным з апошніх нумароў нататку «Возрождается национальный язык» звычна, на расійскай мове.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

# Прэм'ера Максімавай «Пагоні»

***Ад Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку, даведаўся, што славуты верш Максіма Багдановіча «Пагоня» быў напісаны ў Менску і ўпершыню прагучаў у «Беларускай хатцы» (дом Пржэляскоўскай на былой Захар'еўскай) — своеасаблівым клубе беларускай інтэлігенцыі часоў Першай сусветнай вайны.***

Тут, звычайна па суботах, наладжваліся вечарыны, на якія прыходзілі літаратары Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), З. Бядуля, А. Паўловіч, Ф. Фарботка, Ф. Шантар, Р. Зямкевіч, З. Верас (Л. Сівіцкая), тэатральныя дзеячы У. Галубок, В. Фальскі, вучоны А. Смоліч, архітэктар Л. Дубяйкоўскі, вучнёўская моладзь. Сюды адразу ж з вакзала прыйшоў восенню 1916 года і Максім Багдановіч.

«Беларуская хатка» стала зараз даволі вядомай, але тое, што яна мела дачыненне да «Пагоні» Багдановіча, чуць не даводзілася. Таму з нецярпеннем чакаў звестак ад В. Кіпеля, які абяцаў даслаць перадрук успамінаў сваёй цешчы аб дарэвалюцыйным Менску. І вось у маіх руках адбітак з часопіса «Беларуская моладзь» (1960, № 3). Матэрыялы Апалённі Савёнак («Калісьці ў Менску») знялі ўсе сумненні. «Пагоня» сапраўды пачала свой шлях да сэрцаў беларусаў са сцен «Беларускай хаткі».

Вытрымка з успамінаў і дазваляе даведацца, як гэта адбылося. Караціць яе не паднялася рука. Тут і шчырасць пачуццяў, і сакавітасць мовы, і адметнасць граматычнага строю.

«...У вадзін із такіх восеньскіх сыботнікаў з'явіўся Максім Багдановіч. Высокая, худая, крыху суглобая постаць, павольныя рухі, бледны дробны твар. Сур'ёзны, спакойны позірк хваравіта бліскучых вачэй. Ён быў мала падобны да тых фота, што мы знаходзім у нашых выданнях. З папярэдніх размоваў, ды па тэй увазе, з якой яго спаткалі старэйшыя, мы зразумелі, што гэта вялікі чалавек, ды пранікліся глыбокай пашанай да яго. Максім Багдановіч сядзеў на нашых вечарніцах ціха, бязмоўна, безудзельна, толькі па ледзь значнай шчаслівай усмешцы, якая квола зацвітала на ягоных вуснах, мы здагадваліся, што ён цешыцца з нашых спеваў, скокаў, асабліва з дэклямацыяў. Аднойчы нават прачытаў сваю «Скандынаўскую песню».

Незабыўная сцэна аднэй вечарыны канца 1916 года. Неяк у сярэдзіне вечарыны Смоліч папрасіў усіх сесці.

— Я маю прачытаць верш, новы твор.— Тон голасу нізкі, прыцішаны.— Аўтар прасіў не называць яго імя. Смоліч урачыста і ціха прачытаў «Пагоню». У прыцемненым з поваду ваеннага часу пакоі панавала абсалютная ціша. Пасля нясмелае: «Хто гэта? Хто напісаў? — Старэйшыя абступілі Смоліча, зашумелі: — Гэта небывалае ў нашай... ды што ў нашай — у сусветнай літаратуры... Хто аўтар?»

— Я звязаны словам, я сказаць не магу, пастарайцеся здагадацца.

— Прачытайце яшчэ раз! Гэта... гэта..,— не знаходзіць словаў Ядвігін Ш.

— Цяпер ужо Смоліч не чытае, а праймкненна дэклямуе, закончывае амаль скандуючы: «...СТАРАДАЎНЯЙ ЛІТОЎСКАЙ ПАГОНІ НЕ РАЗБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ».

— Гэта можа быць або Янка Купала, або... або наш Максім!— выпаліў Лявіцкі.

— Ён,— каротка кінуў Смоліч.

А ў другім канцы пакоя сядзіць аўтар, усхваляваны, ледзь ухапляючы паветра сваймі хворымі грудзьмі.

— Вось цяпер я маю права публічна прывітаць Вас і з нава-роджаным вялікім творам,— і тонкая рука Максіма Багдановіча згубілася ў буйнай энергічнай руцэ, а затым і ўся ягоная постаць патанула ў шырокіх абдымках Смолічавых рамёнаў.

— Ды пусці ты, мядзведзь,— бароніць Бядуля, адпіхаючы Смоліча, намагаючыся падысці, прывітаць аўтара. Але Багдановіча ўжо вітае Лявіцкі.

— Ну, калі такое маглі напісаць, то Вам і зусім паміраць нельга,— выпаліў з узварушання гарачы Галубок і тут жа, зразумеўшы, якую дурніцу ляпнуў, заліўся слязьмі. (За колькі месяцаў гэты ж самы Галубок адвёз Максіма Багдановіча лячыцца ў Ялту, дзе той і памёр).

Тут Бядуля падышоў да Багдановіча з шырокай усмешкай на мяккім твары: «Дык кажаш... «не разбіць, не спыніць, не стрымаць... Хе-хе, сакол!» — і, паціскаючы ягоную руку, папляскаў па плячы.

Мы сядзелі прыціхшы, не здаючы сабе справы, што зараз вось былі сведкамі вялікай падзеі.

— Можа, папросім, каб аўтар сам прачытаў свой твор,— запрапанаваў Смоліч.

— Аўтара, аўтара! — панеслася шумна з усіх бакоў. Але Багдановіч адмовіўся. Ён адчуваў сябе зняможаным...»

Так невялічкі гурток «Беларускай хаткі» колісь натхніў паэта на святыя словы «Пагоні».

Захар ШЫБЕКА.

Юрка СТАНКЕВІЧ

# *Менск — «замежны горад»*

***Мінулай восенню я наведаў краіну, дзе нарадзіўся,— Беларусь. Вось некаторыя мае ўражанні і назіранні з гэтай паездкі.***

НА СВАЁ ЗДЗІЎЛЕННЕ, я заўважыў, што большасць жыхароў горада размаўляе на рускай мове. Я не супраць таго, каб размаўлялі на замежных мовах, скажам, на французскай у Парыжы або на італьянскай у Рыме. У кожным з гэтых месцаў мне было б прыемна размаўляць па-беларуску на вуліцы. У Менску гэта выклікала цікаўнасць, нават падазрэнне. Карацей, замежнасць Менска стрымлівала мяне, не давала быць самім сабою, вольна размаўляць на сваёй мове ў адзіным месцы на свеце, дзе беларуская мова павінна была б лічыцца роднай.

У адрозненне ад Масквы большасць рускамоўнага насельніцтва ў Менску добра валодае беларускай мовай. Яны, здаецца, пэўным чынам збянтэжаныя сучасным адраджэннем. Згодна з дактрынамі сталінскай і брэжнеўскай эпохі беларуская мова павінна была «зліцца» з рускай і знікнуць.

Людзі, якія размаўляюць на рускай мове, не ўяўляюць сабой адзіную маналітную групу. Адны эмігрыравалі з этнічнай Расіі — рабочыя, салдаты, чыноўнікі,— яны ахвотна дапамагалі пашырыць расійскі ўплыў. Тут ёсць некалькі выключэнняў — гэта людзі, якія ставяцца да карэннага насельніцтва з павагай. Наступная група складаецца з нярускіх эмігрантаў: армян, азербайджанцаў, украінцаў, для якіх руская мова была мовай зносін. І, нарэшце, трэцяя група — асіміляваныя, русіфікаваныя беларусы, якім, здаецца, зручна дасягаць «вяршынь» рускай культуры і займаць віднае месца ў наменклатурным свеце. Яны, што запазычылі цвёрдае вымаўленне і «рубленую» мову масквічоў, з'яўляюцца прадуктам 50—70-гадовай русіфікацыі, зачыненых беларускамоўных школ, знішчэння беларускай спадчыны, прыніжэння беларусаў, абыходжання з імі як з грамадзянамі другога гатунку.

Цяпер гэтыя людзі ў нейкай ступені баяцца сваіх суродзічаў, што адмовіліся ад імперскага «раю». Яны адчуваюць страх перад уздымам «індзейцаў», якія так не адпавядаюць іх рускай мадэлі. І менавіта гэтае пачуццё боязі выклікае ў іх нянавісць да «нацыяналістаў». Сярод асіміляваных беларусаў шмат гэтак званых «абуджаных», якія сімпатызуюць актывістам, але адкрыта да іх не далучаюцца. Гэта найбольш тыя людзі, што зрабілі важкі ўклад на выбарах «радыкальнай» апазіцыі дэпутатаў рэспубліканскага парламента.

З іншага боку, нацыянальныя актывісты выхоўваюць свядомыя нацыянальныя пачуцці. Гэтыя людзі ведаюць, што, нягледзячы на меншасць і свае дэмакратычныя погляды, яны процістаўлены дзяржаўнай большасці (рускай і русіфікаванай) як небяспечная сіла. Яны ведаюць, як кампартыя, якая яшчэ ўсё ж у сіле, выкарыстоўвае ўсе магчымасці, каб вярнуць не надта далёкае мінулае.

Замежнасць гарадской большасці выяўляецца нават яшчэ больш у кантрасце з прадстаўнікамі беларускіх актывістаў, якія гавораць і паводзяць сябе падобным чынам, як гэта робім мы. Я быў здзіўлены адсутнасцю рускага ўплыву ў такой групе. Існуе прыкметная розніца паміж імі і рускімі або русіфікаванымі беларусамі.

## Беларуская мова на вуліцах Менска

На здзіўленне, большая частка назваў вуліц падаецца на беларускай мове. Сельскагаспадарчыя кіёскі, што прадаюць садавіну і гародніну, маюць беларускамоўныя шыльды. На рэстаранах і кавярнях беларускія назвы: «Бярозка», Паўлінка», «Батлейка» і г. д. У шмат якіх з іх на сценах напісаны беларускія прыказкі і прымаўкі.

Відавочны прагрэс і ў грамадскім транспарце. Большасць аўтобусаў мае шыльдачкі, напісаныя на беларускай мове. Прыпынкі аб'яўляюцца ў аўтобусах таксама па-беларуску. Ёсць і іншыя аб'явы, запісаныя на стужку, напрыклад, адна заклікае маладых людзей быць больш уважлівымі да пажылых пасажыраў (ніводнай такой аб'явы па-руску). Але, тым не менш, вельмі доўгі спіс правіл для пасажыраў аўтобусаў дадзены толькі на рускай мове. Вось ужо год, як назвы станцый у Менскім метро і папярэджанне «Будзьце асцярожны! Дзверы зачыняюцца» запісаны на стужку на беларускай мове (але выкарыстоўваецца ў рускім варыянце). Мне было сказана, што работнікі транспарту самі настойвалі на ўжыванні беларускай мовы ў грамадскім транспарце.

Канал «беларускага» тэлебачання. Па ім трансліруецца шмат цікавых перадач, хоць рускамоўныя праграмы Масквы таксама часта з'яўляюцца на экранах (быццам бы з прычыны недахопу беларускамоўных матэрыялаў). Былі вельмі цікавымі трансляцыі сесіі парламента. З задавальненнем слухаў выступленні і каментарыі дэпутатаў апазіцыі (Пазьняка і інш.) на беларускай мове, бо астатняя частка паслухмянага парламента выступае па-руску.

## Дзве супольнасці

У Менску рэальна існуюць дзве супольнасці людзей: адна — у асноўным рускамоўная большасць, якая імкнецца захаваць статус-кво, і другая — меншасць, якая складаецца з беларускіх актывістаў або тых, хто ім спачувае, найбольш дэмакратаў і, зразумела, прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння — культурнага, палітычнага і эканамічнага...

Сярод этнічных рускіх можна знайсці людзей з дэмакратычнымі поглядамі, але яны не выказваюць думку большасці. Нягледзячы на гэтыя неспрыяльныя ўмовы, існуе значная група беларускіх актывістаў: студэнтаў, работнікаў культуры, дэпутатаў рэспубліканскага парламента, прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту і Таварыства беларускай мовы, іншых нацыянальных арганізацый дэмакратычнай арыентацыі.

Мяне запрасілі наведаць некалькі беларускіх культурных устаноў:

— Музей старажытнай беларускай культуры, экспанаты якога адлюстроўваюць беларускую гісторыю і культуру. Я ўспамінаю словы аднаго брытанца, якія я прачытаў у кнізе для наведвальнікаў музея: «Урэшце мы знайшлі сапраўдную Беларусь!»

— Музей гісторыі беларускай літаратуры.

— Музей Максіма Багдановіча. Яго цікавыя экспанаты расказваюць як пра кароткае жыццё самага таленавітага беларускага паэта, так і пра беларускую літаратуру яго эпохі — пачатак XX стагоддзя.

— Інстытут замежных моў, дзе была сустрэча з групай студэнтаў і выкладчыкаў. Інстытут імкнецца ўсталяваць кантакты з амерыканскімі універсітэтамі па вывучэнню беларускай і англійскай моў.

— Клуб «Спадчына», які служыць месцам сустрэч беларускай інтэлігенцыі.

У час сесіі рэспубліканскага парламента беларускія актывісты кожны дзень збіраліся на плошчы перад Домам урада. Аднойчы я таксама наведаў гэта месца: там прысутнічала звыш 200 чалавек, яны абменьваліся навінамі, літаратурай і газетамі...

Над імі развявалася некалькі бел-чырвона-белых сцягоў... Міліцыянеры са сваіх машын толькі назіралі за гэтым. Год таму яны яшчэ спрабавалі вырываць беларускія нацыянальныя сцягі з рук моладзі...

Я магу сказаць, што у час значных палітычных дат тут праводзяцца палітычныя мітынгі і дэманстрацыі, у якіх бяруць удзел тысячы жыхароў.

## Знешні выгляд Менска

Кожны павінен памятаць, што ў час Другой сусветнай вайны Менск быў цалкам разбураны. Аднак працэс адбудовы не надаў гораду прывабнага выгляду. Практычна была занядбана справа захавання гістарычных будынкаў, якія маглі б зрабіць адметным аблічча горада. Апошнім часам былі адрэстаўрыраваны і аднавілі сваю гістарычную вартасць старыя будынкі «Верхняга горада» і «Траецкага прадмесця».

Прыцягваюць ўвагу ў цэнтры горада парк Янкі Купалы, рака Свіслач, яе ўзбярэжжа... Але пачварна вялікія і непрывабныя будынкі КПБ і КДБ, урада Беларусі псуюць добрае ўражанне.

Ускраіны горада не прывабліваюць турыстаў: узнімаюцца ўгору высокія будынкі, паміж якімі шмат неўпарадкаваных тэрыторый. Тут жа месцяцца мноства фабрык, якія атручваюць паветра. І гарадскія забудовы нечакана канчаюцца каля вялікай кальцавой дарогі, з другога боку якой пачынаюцца палі і лясы. Здаецца, ніхто і не падумаў пра рацыянальнае выкарыстанне запушчаных паркаў за горадам — як гэта робіцца ў Паўночнай Амерыцы. Але тут трэба сказаць таксама і пра непрывабны знешні выгляд ускраін іншых гарадоў Усходняй Еўропы.

(Часопіс «Беларашн рэв'ю», № 4, 1990-1991).

З англійскай мовы пераклала Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Юрка Станкевіч — дзеяч беларускай эміграцыі. Жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі (Санівэйл, штат Каліфорнія). Інжынер па прафесіі, ён выкладаў у беларускіх школах у Нью-Йорку і Кліўлендзе. У 1966 годзе выдаў «Падручнік беларускай мовы для другога класа. Правапіс і развіццё мовы». У 1968 годзе — «Кароткі агляд гісторыі Беларусі» (пад псеўданімам П. Рагач). Восенню 1990 года ўпершыню наведаў Беларусь. Цяпер адказны сакратар штоквартальніка «Беларашн рэв'ю».*


© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

